# Са святам вясны і працы!

# НАВІНЫ



Беларускай акадэміі

Выходзіць з кастрычніка 1979 г. ● № 15 (694) ● 30 красавіка 1993 г. ● Цана 1 руб.


«НБА» ІНФАРМУЕ

## Прысвечана Ц. М. Годневу



У Акадэміі навук Беларусі адбылася навуковая сесія Аддзялення біялагічных навук, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння буйнейшага вучонага нашай краіны, заснавальніка даследаванняў па фізіялогіі раслін у Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі, акадэміка, прафесара Ц. М. Годнева.

Пасяджэнне адкрыла акадэмік-сакратар Аддзялення біялагічных навук, акадэмік АНБ Л. В. Хатылёва. У сваім уступным слове яна падкрэсліла вялікую ролю Ц. М. Годнева ў станаўленні навукі аб хларафіле і фотасінтэзу ў Беларусі і ў забеспячэнні высокага ўзроўню прафесіяналізма пры падрыхтоўцы студэнтаў БДУ.

З прывітальным словам выступіў прэзідэнт АНБ, акадэмік Л. М. Сушчэня. Ён адзначыў, што Ц. М. Годнеў быў адным з буйнейшых вучоных краіны, дзякуючы якім адбылося станаўленне сучаснай біялагічнай навукі ў Беларусі ў складанай барацьбе з ілжэнавуковымі ідэямі Т. Д. Лысенка і яго паплечнікаў, затрымаўшых развіццё біялогіі ў краіне на доўгія гады.

Ц. М. Годнеў падрыхтаваў цэлы шэраг буйных вучоных спецыялістаў па фізіялогіі раслін.

З навуковымі дакладамі аб дзейнасці акадэміка Ц. М. Годнева і развіцці яго ідэй у вучэнні аб хларафіле і фотасінтэзу выступілі член-карэспандэнт АНБ М. Т. Чайка і Г. П. Гурыновіч.

На пасяджэнні паплечнікі і вучні Ц. М. Годнева дзяліліся ўспамінамі аб сумеснай рабоце, паведамілі аб ім, як аб заснавальніку савецкай школы даследчыкаў біясінтэзу хларафіла, заснавальніку школы беларускіх фізіёлагаў і біяхімікаў раслін. Шмат было сказана аб гэтым цудоўным, высокамаральным і шчырым чалавеку.

Было прынята рашэнне аб заснаванні ў Беларусі штогодных годнеўскіх чытанняў, прысвечаных праблемам фізіялогіі раслін.

Э. В. ХАДАСЕВІЧ,
доктар
біялагічных навук.

КРОКІ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

## НЕТРЫ БЕЛАРУСІ: ШТО Ў ПЕРСПЕКТЫВЕ?

У апошнія дзесяцігоддзі з трывогай ставяцца пытанні: на колькі гадоў хопіць розных відаў карысных выкапняў? Што будзе рабіць чалавек, калі выкарыстае нафту, газ, вугаль, жалезную руду, каляровыя металы? Чым замяніць гэтую сыравіну?

Значны рост здабычы вугалю, нафты, жалеза і іншых выкапняў пачаўся з XIX стагоддзя. У апошнія дзесяцігоддзі гэты працэс значна нарастаў. За час эксплуатацыі зямных нетраў да 1970 года ў свеце было здабыта 38 мільярдаў тон нафты, 125 мільярдаў тон вугалю, 10 мільярдаў тон жалеза, з іх за 1950—1970 гады — 70 працэнтаў нафты, 37 — вугалю і 50 — жалеза. Здабыча вугалю ў свеце складала ў 1970 годзе 2,5 мільярда тон, а да 2000 года ўзрасце да 4 мільярдаў тон. Здабыча нафты складзе ў 2000 годзе 6 мільярдаў тон (яе запасы — каля трыльёна тон), жалеза — 1 мільярд тон (запасы 100 мільярдаў тон). Здабыча алюмінія павялічыцца ў 10 разоў. Узрасце таксама ўжыванне ўрана атамнымі станцыямі, павялічыцца попыт на цырконій, рэдкія землі і г.д.

Некаторыя краіны (ЗША і інш.) ствараюць запасы важнейшых відаў мінеральнай сыравіны на некалькі гадоў наперад на выпадак надзвычайных абставін. Гэта забяспечвае ім устойлівасць функцыяніравання эканомікі і ваенна-прамысловага комплексу. У Расіі і іншых краінах былога СССР ідзе зваротны працэс — распродаж і раскраданне таго вялікага мінеральна-сыравіннага патэнцыялу, які стварыўся дзесяцігоддзямі геолагамі, рабочымі і інжынерамі горназдабываючай і перапрацоўчай прамысловасці.

Што ж чакае нас у перспектыве?

У нетрах Зямлі знаходзіцца яшчэ значная колькасць неадкрытых карысных выкапняў, якія будуць служыць чалавецтву на працягу многіх дзесяткаў і соцень гадоў. Але ж запасы ўсіх іх відаў раней ці пазней будуць вычарпаны. Чалавецтва павінна будзе шукаць новыя шляхі атрымання прыродных карысных кампанентаў і іх замяніцеляў. Гэта — важнейшая агульначалавечая праблема, якая можа быць вырашана намаганнямі розных спецыялістаў многіх краін. Але ўжо цяпер можна вызначыць нейкія шляхі вырашэння гэтай праблемы:

— адкрыццё новых радовішчаў карысных выкапняў на даступных для сучаснага ўзроўню развіцця навукі і тэхнікі глыбінях;

— асваенне акіянаў і мораў — некаторыя падлікі паказваюць, што на дне іх знаходзіцца каля 70 працэнтаў рудных мінералаў і паліўных запасаў Зямлі;

— вывучэнне і асваенне глыбінных зон Зямлі;

— выкарыстанне новых мінералаў і парод у якасці карысных выкапняў;

— стварэнне штучных мінералаў;

— шаноўныя адносіны да багаццяў зямных нетраў (максімальнае выкарыстанне радовішчаў, шырокае ўкараненне геатэхналагічных спосабаў здабычы карысных выкапняў, іх комплексная перапрацоўка і выкарыстанне);

— выкарыстанне энергіі ўнутраных частак Зямлі, энергіі Сонца, ветра, вады, біяэнергіі;

— ядзерная энергія, якая шырока выкарыстоўваецца ў многіх краінах.

Да 1917 года нетры Беларусі практычна не вывучаліся. Геалагічных устаноў тут не было. Але, пачынаючы з 20-х гадоў, у Беларусі былі арганізаваны і сістэматычна праводзіліся геолагаразведачныя работы.

Прадпасылкай пасяховых пошукаў карысных выкапняў з'яўляецца ўстанаўленне асноўных заканамернасцей геалагічнай будовы раёна. Геолаг павінен мець геалагічную аснову, якая ў Беларусі ў агульных рысах створана. У яе ўкладзена вялікая праца і веды геолагаў-вучоных і геолагаў-практыкаў. Выканан вялікі аб'ём геафізічных даследаванняў, прабураны тысячы (у тым ліку сотні глыбокіх) буравых свідравін, сучаснымі метадамі вывучана мноства ўзораў горных парод. Гэта дало магчымасць беларускім геолагам абгрунтаваць перспектывы тэрыторыі Беларусі на карысныя выкапні, а затым адкрыць шэраг радовішчаў: буйнейшы ў былым СССР калііносны басейн, радовішчы каліййнай солі, нафты і газа, жалезных руд, гаручых сланцаў, кааліну, даўсаніта, фасфарытаў, карбанатных парод, абліцовачнага каменя. Разведаны вялікія запасы прэснай вады, мінеральных падземных вод, расолаў і г.д. Выяўлены рудапраявы шэрагу каляровых металаў, рэдкіх і рассеяных элементаў.

Геафізікамі ў Беларусі ўжо даўно былі ўстаноўлены магнітныя анамаліі значнай інтэнсіўнасці. Многія геолагі лічылі, што яны звязаны з асноўнымі магматычнымі пародамі і жалезарруднымі канцэнтрацыямі. Глыбокае бурэнне свідравін падцвердзіла гэтыя меркаванні. Найбольшую цікавасць з практычнага пункту гледжання выклікаюць дзве зоны: Карэліцкая і Стаўбцоўская. У Карэліцкай зоне адкрыта Наваселкаўскае радовішча ільменіт-магнетытавых руд з утрыманнем у іх жалеза ў

(Заканчэнне на 2-й стар.).

## Як выжыць беларускай навуцы?

ЗАПРАШАЕМ

ДА СУПРАЦОЎНІЦТВА

З кожным днём усё вастрэй паўстаюць пытанні хутчэйшага рэфармавання айчыннай навукі. Яе патэнцыял даволі багаты, але яму неабходна тэрміновая структурная перабудова. Зараз пераважаюць два процілеглыя накірункі: першы — па прыкладу Заходняй Еўропы — пераарыентаваць усю навуку на універсітэцкія структуры, цалкам адказаўшыся ад акадэмічных; другі — захаваць статус-кво за традыцыйнымі структурамі навуковай іерархіі былога Саюза з абсалютна бюджэтным фінансаваннем. Як заўсёды, ісціна знаходзіцца недзе пасярэдзіне. Нам здаецца, што традыцыі шматгадовага разрыву паміж акадэмічнай і універсітэцкай навукамі ў нашай рэспубліцы на пераходны перыяд могуць пакуль што захавацца. Але патрабуецца акрамя бюджэтнага і мэтавае фінансаванне з абавязковым грамадскім кантролем. Для гэтага неабходна ўтварэнне новых творчых калектываў, часовых навуковых суполак. Таксама неабходна фінансаванне з боку камерцыйных і прамысловых прадпрыемстваў і арганізацый. У гэтым выпадку вучоны мог бы распараджацца дадатковым фінансаваннем самастойна, але пры гэтым несці асабістую адказнасць за некампетэнтныя рэкамендацыі, якія не выцякаюць з канкрэтных вынікаў навуковага даследавання.

Размеркаванне бюджэтных сродкаў магчыма разам з грамадскімі арганізацыямі. Навуковая ацэнка вынікаў даследавання — абавязкова разам з грамадскімі структурамі. Экспертная ацэнка дасягненняў — толькі за назафармалізаванымі, пазачыноўнымі аб'яднаннямі.

Спадзяёмся, што гэтыя прапановы будуць прыняты будучым Дзяржкамітэтам па навуцы і тэхналогіях. З цягам часу будуць ствараца ўсё новыя грамадскія аб'яднанні, фонды, суполкі, якія паступова перарастуць у адзіныя дзяржаўна-грамадскія структуры, напрыклад, экспертныя камісіі па асобных галінах навукі або на іх сумежжы. Хутчэй за ўсё апошнія не павінны арыентавацца на кіраўнікоў навуковых ці навучальных устаноў або іх намеснікаў. Арыентацыя павінна весціся толькі на навукоўцаў — выканаўцаў канкрэтных тэм, праектаў, праграм.

Экспертных камісій можа быць недзе паміж 20—25. Прапануем наш погляд на іх накіраванасць: антрапалогія, біялогія, біятэхналогія з мікрабіялогіяй, медыцына, астраномія, матэматыка, геаграфія з геалогіяй, фізіка, фармацыя, сельскагаспадарчыя навукі, экалогія, камп'ютэрная тэхніка і тэхналогія, механіка і машынабудаванне, хімія і хімічныя тэхналогіі, энергетыка, псіхалогія з педагогікай, гісторыя філасофія і сацыялогія, эканоміка і права, мова з літаратурай і мастацтвазнаўства, лесаводства, навуказнаўства.

Неабходна ўсвядоміць, што аб'ектыўнасць навуковай экспертызы залежыць ад многіх фактараў. Перш за ўсё гэта ўдзел аўтарытэтных, не запляміўшых свайго імя, вучоных. Навуковая грамадскасць, яе аб'яднанні, клубы па інтарэсах і накірунках павінны фарміраваць уласныя групы для вызначэння перспектыў асобных навук, іх адгалінаванняў. Падобных згуртаванняў, суполак, аб'яднанняў, фондаў, таварystваў, асацыяцый, саюзаў можа быць як мага болей. Супрацоўнічаць з дзяржаўнымі структурамі і паміж сабою яны павінны праз юрыдычныя дагаворы. Такія аб'яднанні маглі б удзельнічаць у рабоце агульных сходаў, вучоных саветаў, выбіраць калегіяльныя органы самакіравання, дэлегаваць сваіх прадстаўнікоў у розныя адміністрацыйныя дзяржаўныя і змешаныя камісіі. Ацэнку навуковым дасягненням якраз і павінна даваць не адміністрацыя, а калегіяльны Вучоны савет.

Прыклад утварэння падобнай грамадскай суполкі сярод навуковых работнікаў і супрацоўнікаў іншых творчых устаноў ужо маецца ў Беларусі. Група

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# НЕТРЫ БЕЛАРУСІ: ШТО Ў ПЕРСПЕКТЫВЕ?

*А. С. МАХНАЧ,*

*АКАДЭМІК АН РБ*

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

30.7 працэнта; 5,3 працэнта — ванадзія, з павышаным утрыманнем тытана, кобальта, хрома, нікеля. Запасы руд радовішча — дзесяткі мільёнаў тон. Акрамя таго, тут адкрыта некалькі рудапраяў жалеза.

Аколаўскае радовішча (Стаўбцоўская зона) мае запасы жалезістых кварцытаў звыш 500 мільёнаў тон (сярэдняе ўтрыманне ў іх жалеза 27 працэнтаў). У гэтай жа зоне адкрыта Рубяжэвіцкая рудапраява — тут залягае звыш 50 мільёнаў тон жалезнай руды.

Заслугоўваюць увагі для далейшых пошукаў жалезных руд рудапраявы магнетытавых метасаматытаў у Шчучынскім, Карэліцкім і Стаўбцоўскім раёнах.

Установлена звыш 10 рудапраяў, значная колькасць зон і кропак мінералізацыі медзі, цынка, свінца, мыш'яка, нікеля, малібдэна ў Стаўбцоўскім, Уздзенскім, Карэліцкім і Мастоўскім раёнах.

З рэдкіх металаў у Беларусі вядома рэдказямельна-берыліевае радовішча «Дыябазавае» і рудапраява рэдкаметальных мігматытаў. Будаўнічыя і абліцовачныя матэрыялы вядомы ў раёнах Глушкавічаў, Мікашэвічаў, Жыткавічаў, дзе яны залягаюць ці на паверхні, ці на невялікай глыбіні, праявы графіта вядомы ў Уздзенскім і Ляхавіцкім раёнах, а мармура і валастаніта — у Карэліцкім.

Яшчэ да адкрыцця нафтавых радовішчаў у Беларусі беларускімі геолагамі было выдзелена па перспектывах нафтаноснасці тры групы раёнаў: высокаперспектыўныя — Прыпяцкі прагіб, перспектыўныя — Брэсцкая і Аршанская ўпадзіны, не перспектыўныя — астатнія раёны. Асноўная ўвага вытворчых арганізацый і навуковых установаў была скіравана на вывучэнне Прыпяцкага прагіба і ўжо ў 1956 годзе пры бурэнні Ельскай свідравіны Р2 ударыў першы ў Беларусі фантан нафты. Але гэта было не радовішча, а толькі невялікая залеж нафты ў верхняй тоўшчы. І толькі ў кастрычніку 1964 года на Рэчыцкай плошчы была атрымана першая прамысловая нафта.

За прайшоўшыя гады даказана прамысловая нафтаноснасць паўночна-усходняй часткі Прыпяцкага прагіба. Абнадзейваючыя даныя атрыманы і па іншых яе раёнах. Адкрыта звыш 50 радовішчаў нафты, многія з якіх знаходзяцца ў распрацоўцы.

Беларуская нафта — высокай якасці, маласерністая, яе радовішчы знаходзяцца ў спрыяльных эканамічных умовах. Да цяперашняга часу здабыта каля 90 мільёнаў тон нафты, а пры штогадовай яе здабычы ў 2 мільёны тон толькі яе разведаных запасаў хопіць прыкладна на 30 гадоў.

Вялікае значэнне і папутнага (растворанага ў нафце) газа. Яго запасы перавышаюць 100 мільярдаў тон.

У тым жа Прыпяцкім прагібе ўстаноўлена больш 30 гарызонтаў калійных соляў (іх прагнозныя запасы — 80 мільярдаў тон, разведаныя — каля 10 мільярдаў). Цяпер вядомы два іх радовішчы — Старобінскае і Петрыкаўскае. Патэнцыяльнай базай калійных руд з'яўляюцца Нежынскі, Смолаўскі, Кастрычніцкі і іншыя ўчасткі Старобінскага радовішча.

Залежы каменнай солі на тэрыторыі Прыпяцкага прагіба невычэрпныя (трыльёны тон). У многіх раёнах соль залягае неглыбока, таму даступная для распрацоўкі. Разведаны тры радовішчы — Давыдаўскае, Старобінскае і Мазырскае. Соль гэтых радовішчаў высокаякасная.



За захадзе Прыпяцкага прагіба знаходзіцца радовішча гіпса (прагнозныя запасы каля 1 мільярда тон), адкрыт басейн гаручых сланцаў (запасы — 11 мільярдаў тон).

У заходняй і паўднёвай частцы Беларусі ўстаноўлены шматлікія пласты вугляў рознага ўзросту. Большасць з іх залягае на вялікіх глыбінях, магутнасць пластоў невялікая, якасць — нізкая.

Тут жа, у Прыпяцкім прагібе, адкрыта месцанараджэнне шэрагу перспектыўных плошчаў і рудапраяў даўсаніта — рэдкага ў прыродзе мінерала, які з'яўляецца сыравінай для атрымання соды і алюмінія. Заазернае месцанараджэнне — адно з унікальных радовішчаў прыроднай соды ў свеце і першае на тэрыторыі былога СССР. Запасы яе складаюць 90 мільёнаў тон.

Эфектыўнасць асваення радовішча можа быць павышана пры прыцягненні да эксплуатацыі баксітаў і каалінітаў, вылучэнне з руды рэдкіх металаў — галія, ліція, ніобія і інш. Адходы вытворчасці могуць быць выкарыстаны ў цэментнай прамысловасці.

На Магілёўшчыне вядомы залежы фасфарытаў, прагнозныя запасы якіх — звыш 900 мільёнаў тон. У раёне Хацімска вядомы вялікія запасы цэалітутрымліваючых сіліцытаў.

У рэспубліцы (радовішчы на рэках Днепр і Заходняя Дзвіна) знойдзены карбанатныя пароды, у межах Мікашэвіцкага-Жыткавіцкага выступу — радовішчы кааліну, у заходніх і паўднёвых раёнах — жалвакавыя ўтварэнні крэмня, дзве перспектыўныя янтараносныя правінцыі, адкрыты і асвоены сотні радовішчаў сыравіны, якая выкарыстоўваецца ў будаўніцтве (мел, мергель, даламіт, гліны, пяскі для вытворчасці шкла, будаўнічы камень, прыродныя мінеральныя пігменты).

Беларусь — адзін з нямногіх рэгіёнаў былога Саюза, ды і свету, які практычна поўнасцю забяспечаны высокаякаснымі падземнымі водамі для піццявога водазабеспячэння. Багатая яна і на мінеральныя рэчывы: хларыдна-сульфатныя і хларыдныя, натрыевыя, магніева-кальцава-натрыевыя, магніева-кальцыевыя. Шырока вядомы ў нас «Мінская-3» і «Мінская-4», «Рагачоўская», «Гомельская», «Расветаўская», якія дапамагаюць многім хворым людзям.

У асадачных тоўшчах Беларусі вядомыя павышаныя ўтрыманні цяжкіх мінералаў і анамаліі рэдкіх і рассеяных элементаў (медзь, кобальт, нікель, срэбра, тытан, ванадзій, хром, цырконій, рэдкія землі), цяжкія мінералы (ільменіт, магнетыт, лейкаксен, цыркон, гранат і г.д.).

Вядомыя цяпер радовішчы і рудапраявы карысных выкапняў рэспублікі адкрыты ў розныя часы геолагамі геалагічных і геафізічных партый і экспедыцый Упраўлення геалогіі Беларусі пры навуковым суправаджэнні і актыўным удзеле вучоных Беларускага навукова-даследчага інстытута і Інстытута геалогіі, геахіміі і геафізікі АНБ.

Ва ўмовах незалежнасці Беларусі трэба па-новаму падысці да ацэнкі і выкарыстання яе нетраў. У былым Саюзе для рэспублікі практычна не мела значэння, якімі карыснымі выкапнямі яна валодала. Зараз сітуацыя карэнным чынам змянілася: трэба максімальна рацыянальна выкарыстоўваць свае багацці. А для гэтага патрэбна асобную ўвагу надаць рацыянальнаму выкарыстанню сыравіны ўжо эксплуатуемых радовішчаў, эканамічнай ацэнцы адкрытых, але яшчэ не эксплуатуемых радовішчаў, дэталёваму вывучэнню рэчыўнага складу найбольш перспектыўных комплексаў, распрацоўцы новых тэхналогій, перавода шэрагу звычайных мінералаў і горных парод у ранг карысных выкапняў.

У новых умовах нашага развіцця трэба ясна вызначыць арганізацыйную структуру геалагічнай службы і геалагічнай навукі, вырашыць пытанне аб падрыхтоўцы геалагічных кадраў, выданні спецыяльнай літаратуры і карт.

Асаблівым клопатам беларускай дзяржавы павінна быць рацыянальнае выкарыстанне багаццяў нетраў рэспублікі, іх ахова ад разбазарвання, крадзяжу асобнымі прадпрыемствамі, камерцыйнымі структурамі і прыватнымі асобамі. Нетры Беларусі павінны служыць беларускаму народу.

А. МАХНАЧ,
акадэмік АН Беларусі.

# СКАРЫНІЯНА І ... МУХІ

Усім вядомая гравюра з партрэтам Скарыны з'явілася ўпершыню ў яго выданні свайго прыкладу біблейскай кнігі «Ісуса Сіхахава» «у слаўным старым месце Празском лета па божым




нараджэнні тысяшчнага пяцьсот і седмаганадзесяць, месяца декабрыя, дня пятага». Другі раз яна была змешчана як 242 старонка ў Скарынавым перакладзе «Кнігі царстваў» 10 жніўня 1518 г. І, нарэшце, трэці раз у перакладзе кнігі «Быццё» 1519 г. З гэтага часу вось ужо на працягу 475 гадоў глядзяць людзі на гравюрны партрэт першадрукара і дзівяцца, разумеючы яго сэнс як мастацкага твору. Але яшчэ больш дзівяцца таму, што да сяго часу няма больш-менш прыймальнага (а не толькі навуковага) тлумачэння шматлікіх загадак, якія задаў Скарына нашчадкам, няма ім тлумачэння, якое задаволіла хаця б апалагетаў, не гаворачы што рыгарыстаў. Узяць, напрыклад, тыя ж «таемныя» знакі: «трохкутнік» з упісанай «Т» і «квадрат» з двума элементамі, або «Пчалу», або манаграму-вензель ТМЗ (МТЗ, MTS) або так званы «сігнет-зведзеныя разам Сонца і Месяц. Як іх разумець наогул і тым больш у дачыненні да асобы Скарыны?

Ужо больш за дзвесце гадоў скарыназнаўства б'ецца над іх разгадкай, прыводзячы самыя адмысловыя і неверагодныя версіі ад псеўданавуковых да народнаэтымалагічных. Пра іх можна даведацца ў спецыяльнай літаратуры, а пра асноўныя — шырокаму чытачу можа паслугаваць энцыклапедычны даведнік «Францыск Скарына і яго час» (1988 г.) (рускі пераклад 1990 г.).

Але нават самыя апошнія публікацыі розных аўтараў сведчаць, што спробы дэшыфроўкі пакідаюць знакі-сімвалы нерасчытанымі, не ўвязанымі па сэнсу з усёй сімфоніяй гравюры. Тыя, хто браліся за рашэнне прыцягальнай для інтэлекту задачы, мелі пэўныя вынікі, адны — сімпатычныя па сваёй эстэтыцы, другія — наадварот.

Намі прапанаваны свае тлумачэнні, якія грунтуюцца на ўліку характару эпохі, гістарычных, астранамічных, матэматычных, дэмаграфічных, геранталагічных, сацыяльных, адукацыйных, генеанамічных і эзатэрычных дадзеных.

На жаль, цікавасць да іх праяўляе толькі вузкае кола навуковай грамадскасці. Спробы давесці вынікі работы да чытачоў перыядычных выданняў і да тых, хто па службе мусіць цікавіцца імі (напрыклад, пры перайменаванні галоўнага праспекта сталіцы рэспублікі), былі марныя, нягледзячы на тое, што ў саставе рэдкалегій усіх мінскіх часопісаў ёсць людзі, якія ведаюць пра нашу работу. Рэдакцыі не турбуюцца выдаваць, быццам яны ўжо спазналі ісціну ў канечнай інстанцыі. Вось і прыходзіцца друкавацца за мяжой. А наш чытач па-ранейшаму атулены глухой сцяною рэдактарскіх пыху і густу. Выкарыстаем нагоду, звязаную з гісторыяй публікацыі Р. Равякі «Гараскоп і сузор'е Францыска Скарыны» у газеце «Звязда» (1993, № 8 ад 15 студзеня).

Летась намі былі апублікаваны ў тэзіснай форме матэрыялы пра адпаведнасць сузор'я «Пчалы» («Асы», «Мухі»), якое знаходзіцца ў паўночнай гемісферы, дню нараджэння Скарыны. Р. Равяка выкарыстаў повад, каб прадставіць свае разважанні аб даце нараджэння першадрукара. Пры гэтым ён зрабіў домысел наконт крыніцы, адкуль яны намі быццам бы браліся. Гэта, маўляў, кніга А. Бонава, дзе балгарскі папулярызатар прыводзіць апісанне сузор'я «Мухі». На жаль, замежны аўтар дае ілюстрацыю з сімвалам аднаго сузор'я «Мухі» (на паўночным небасхіле ў суседстве з сузор'ямі Авена і Цяльца), а тэкст А. Бонава мае на ўвазе іншую «Муху»-сузор'е ў паўднёвай гемісферы па суседству з паўдзённым Крыжам (малюнак 2). Паколькі Равяка некрытычна аднёсся да інфармацыі, то яму здалося, што «Муха» «залятала не туды». Больш таго, заўважым, ілюстрацыя ўзята з карты, якая паказвае становішча зорак на небе не на




канец XV — пачатак XVI ст.ст., г. зн., малюнак сузор'яў не адпавядае эпохе Скарыны.

Балгарын і наш аўтар бухнулі ў звон, не заглянуўшы ў святцы.

Цікаўны чытач можа, пракансультаваўшыся з даведнікам, сам вылічыць момант астранамічнага часу, на які яна складзена. Для гэтага ён павінен улічыць дзеянне прэцэсіі, вызначанай Гіпархам (II ст. да н. э.), у выніку якой становішча Зямлі ў прасторы мяняе малюнак размяшчэння зорак, абумоўлівае іх «рух» такім чынам, што толькі праз 25.765 гадоў яны «вяртаюцца» у ранейшыя месяцы. Чарговая эпоха наступае, калі Авен у экліптыцы супадае з днём вясенняга раўнадзенства, з якога традыцыйна адлічваўся бег году. Прымяніўшы формулу: 50,3″ памножыць на X гадоў з пачатку чарговай эпохі (калі вясенняе раўнадзен-



# Як выжыць беларускай навуцы?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

апантаных навукоўцаў з Акадэміі навук і некаторых вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі, падтрыманыя Мінскай біржай вытворцаў, Акадэмбанкам, выдавецтвам «Навука і тэхніка» і РКП АНБ, вырашылі стварыць дабрачынную грамадскую арганізацыю Беларускае згуртаванне навукоўцаў па сацыяльнай абароне, назваўшы яе «Асана».

Як прынята на агульным сходзе і зацверджана ў статуце згуртавання, «Асана» выконвае сваю дзейнасць сярод навуковых супрацоўнікаў, настаўнікаў, урачоў, іншай творчай інтэлігенцыі РБ. «Асана» валодае правам заканадаўчай ініцыятывы, удзельнічае ў выпрацоўцы рашэнняў органаў дзяржаўнай улады і кіравання.

Згуртаванне «Асана» з'яўляецца юрыдычнай асобай, мае самастойны баланс і разліковы рахунак № 700706 у Акадэмбанку, код 730. Прапануецца ўсім жадаючым, па-першае, стаць яго паўнапраўнымі членамі праз уступны ўзнос 100 руб. і членскі ўзнос штогод 100 руб. Можна прыняць удзел у конкурсе па падрыхтоўцы эмблемы — сімвалу згуртавання «Асана» і іншай атрыбутыкі (пячаткі, вымпелаў, бланкаў). Умовы конкурсу будуць апублікаваны дадаткова ў «Навінах Беларускай акадэміі».

Падобную суполку аднадумцаў спачатку, у працэсе папярэдніх сустрэч яшчэ ў мінулым годзе, прапанавалася аб'яднаць накшталт Літфонду ў выглядае вялікай касы ўзаемадапамогі, каб падтрымаць у першую чаргу тых навукоўцаў, якія валодаюць геніяльнымі ідэямі, працуюць над навейшымі тэхналогіямі, але самі, да жудаснага, сацыяльна, маральна і матэрыяльна не абаронены. Калі мы пазнаёмілі з нашымі планамі кіраўнікоў прэзідыума АНБ, у прыватнасці, Ганаровага прэзідэнта акадэміка М. А. Барысевіча, Галоўнага вучонага сакратара прэзідыума АНБ акадэміка А. М. Ганчарэнка і некаторых іншых асоб, апублікавалі ў жніўні ў «Навінах Беларускай акадэміі» праект статуту фонду «Асана», на жаль, падтрымкі ад іх не атрымалі. Між іншым, уся работа выконваецца згодна з п. 2 статуту РКП АНБ.

Мы ад імя Рады згуртавання «Асана» заклікаем спрыяць тым аб'яднанням людзей у клубах па навуковых, інжынерных, іншых творчых інтарэсах, дзе адбываюцца кантакты з калегамі, узаемная інфармацыя і размовы аб страшэннай небяспецы чалавеку з боку амаль ужо некіруемай экалагічнай сітуацыі. Неабходна накіраваць наш пошук як да рацыянальна гарманічных экалагічных паводзін, так і канкрэтных навуковых парад і здзяйсненняў у экалагічнай палітыцы. Тут засяроджана ўвага перш на тых пытаннях, што найбліжэй да нашых асабістых навуковых і грамадзянскіх інтарэсаў. Чакаем іншых самых розных прапаноў, якім патрэбны сродкі падтрымкі.

Утваральнікі згуртавання «Асана» прадугледжваюць у сваёй дзейнасці наступныя мэты і задачы. Па-першае, стварыць банкі новых ідэй, тэхналогій, распрацовак, практычных рэкамендацый па выніках фундаментальных і прыкладных даследаванняў. Па-другое, здзейсніць абарону грамадзянскіх, палітычных, эканамічных, сацыяльных, культурных правоў і свабод навуковых супрацоўнікаў і іншых членаў згуртавання. Па-трэцяе, садзейнічаць эфектыўнай медыка-прафілактычнай і матэрыяльнай дапамозе членам «Асаны».

З задач пералічым толькі галоўныя і найбольш спецыяльныя для нашага аб'яднання: кансалідаваць намаганні навукоўцаў як акадэмічных, так і універсітэцкіх устаноў на рэалізацыю вынікаў навуковых распрацовак, прапагандаваць веды і навейшыя дасягненні вучоных на адпаведных прадпрыемствах, пачаць падрыхтоўку да выдання кніг і часопіса «Навіны экалогіі чалавека» на роднай мове, развіваць міжнародныя навукова-практычныя сувязі паміж калегамі і інш. Для вырашэння прынятых задач нам дазволена ўдзельнічаць у акцыянерных таварыствах і іншых арганізацыях, дзейнасць якіх адпавядае мэтам згуртавання «Асана». Плануецца праводзіць латарэі, аукцыёны, выставы, відовішчна-масавыя і іншыя мерапрыемствы, накіраваныя на прававую, сацыяльную абарону сваіх членаў.

У парадку рэалізацыі знешнеэканамічнай дзейнасці прапануецца ў 1994 г. правесці Міжнародны кангрэс беларусаў — навукоўцаў.

Коратка аб членстве ў згуртаванні «Асана». Яно можа быць індывідуальным і калектыўным. Індывідуальнымі членамі могуць стаць дарослыя грамадзяне РБ або іншых краін, якія зацікаўлены ў развіцці беларускай навукі і культуры, падтрымліваюць іх сваімі ахвяраваннямі, садзейнічаюць гарманічнаму суіснаванню чалавека з навакольнаю прыродаю і паміж сабою. У калектыўныя члены запрашаюцца навуковыя і вучэбныя ўстановы, доследныя станцыі і інстытуты, іншыя прадпрыемствы і арганізацыі, для якіх неабыякавы дабрабыт нашых людзей і аўтарытэт дзяржавы. Уступныя і членскія ўзносы па дамоўленасці разам з пажаданым ахвяраваннем ці спадчынай перадаюцца на наш разліковы рахунак.

Члены згуртавання ўдзельнічаюць у выпрацоўцы і рэалізацыі ўсіх праектаў і праграм «Асаны», карыстаюцца юрыдычнай і сацыяльнай дапамогай пры выданні сваіх прац, пры ўкараненні асабістых распрацовак за мяжой.

Рашэнні па любых пытаннях дзейнасці згуртавання «Асана» прымаюцца на агульным сходзе. Ён жа выбірае старшыню згуртавання, яго намесніка, сакратара, членаў Рады і рэвізійнай камісіі, распрацоўвае і зацвярджае Праграму дзейнасці «Асаны», смету расходаў. На агульным сходзе разглядаюцца пытанні аб адкрыцці прадстаўніцтваў за межамі Беларусі, ствараюцца секцыі па асобных напрамках дзейнасці згуртавання.

Рада выступае ініцыятарам новых навуковых распрацовак на сутыкненні інтарэсаў розных устаноў і выканаўцаў, пры неабходнасці арганізуе міждзяржаўныя фундаментальныя даследаванні, разглядае мэтазгоднасць фінансавання навуковых праграм, падтрымкі новых ідэй і тэхналогій асобных навукоўцаў, для чаго ў кожным выпадку ўтварае сваю экспертную камісію з кампетэнтных прадстаўнікоў адпаведных прафесій. Рада з падачы старшыні разглядае прапановы аб стварэнні або ліквідацыі прадпрыемстваў і гасразліковых структур «Асана», а таксама пытанні, звязаныя з выкананнем прамыслова-гаспадарчай дзейнасці.

Пералічым усе, згодна са статутам, крыніцы ўтварэння сродкаў і маёмасці. Яны фарміруюцца з уступных і членскіх узносаў, маёмасці, што перайшла да «Асаны» па спадчыне, дарэнняў, мэтавых адлічэнняў заснавальнікаў і членаў згуртавання, добраахвотных укладаў грамадзян і арганізацый Рэспублікі Беларусь і іншых дзяржаў, ахвяраванняў грамадзян, лекцыйнай і выдавецкай дзейнасці. Мяркуецца, што дабрачыннасць «Асаны» будзе заўважана і яна падпадзе пад Закон Вярхоўнага Савета РБ аб вызваленні ад падаткаў тых камерцыйных структур, якія ахвяруюць свае зберажэнні на падтрымку айчынных навукоўцаў.

Згуртаванню «Асана» дазволена таксама атрымліваць грашовыя сродкі або маёмасць ад замежных устаноў і прыватных асоб у мэтах сумеснай навукова-практычнай, экалагічнай, выдавецкай і іншай дзейнасці, якая не супярэчыць нашаму статуту і дзеючаму заканадаўству. У бліжэйшы час будзе адкрыты разліковы рахунак у Знешэканомбанку РБ для замежных інвестараў і мецэнатаў, фундатараў.

Праграма на бліжнюю перспектыву ў нашай рабоце выкладаена на пачатку гэтага артыкула. Яшчэ раз заклікаем навуковую грамадскасць, творчую інтэлігенцыю, беларускіх вытворцаў і камерсантаў актыўна садзейнічаць далейшаму ўзлёту айчыннай навукі, культуры, адукацыі, медыцыны і экалогіі. Сродкі можна ўносіць пад канкрэтныя праекты, праграмы, кнігі, часопісы, выставы, відовішчы, інфармацыйныя публікацыі, арганізацыйныя мерапрыемствы, рэкламу. Яшчэ раз нагадаем разліковы рахунак Беларускага згуртавання навукоўцаў па сацыяльнай абароне «Асана»: 220072, г. Мінск, Акадэмбанк, код 730, Р/р 700706. Можна напісаць па адрасу: 220015, г. Мінск-15, Абан. скрынка 43, тэлефанаваць 395-924, 56-82-72.

**А. МІКУЛІЧ,**
**доктар навук,**
**антраполаг, старшыня**
**згуртавання «Асана».**

## ЧЕМ ДУМАТЬ БУДЕМ?

**Трудности сегодняшней жизни заставляют уезжать за границу и белорусских ученых.**

Как сообщил сотрудник международного отдела Академии наук республики П. В. Князев, за 1992 год Академию наук оставило около 900 человек. Это ученые всех степеней. Эмиграция наших «мозгов» идет в США, Англию, Израиль, Тайвань.

**Анатолий РОМАНОВИЧ.**

ства прыходзілася на 21 сакавіка па тады не існаваўшаму яшчэ юліянскаму календару), да моманту, калі Муха з'явілася на 10° (як паказана на малюнку),— можна вызначыць дакладны тэрмін такога палажэння свяціл. Але пэўна, што гэта будзе да часу Скарыны.

На эпоху Скарыны разлік будзе мець іншы выгляд.

Р. Равяка ўслед за А. Бонавым выдае «Муху — суседку Скарпіёна за «Муху» — суседку Авена (малюнак 3), не адрознівае зорную карту паўночнага неба ад зорнай карты паўднёвага. Падмена ж у картах называецца шулерствам, аднак рэдакцыя «Звязды» яго не заўважыла. Вядома, «аквіла нон капіт мускас» — арол не ловіць мух! Але з другога боку, дзвюх мух было дастаткова, каб заседзець крытычную здольнасць нашых арлоў, уменне адрозніць адно сузор'е ад другога і не блытацца ў дзвюх соснах. Суцешым іх: «арлы» скарыназнаўства таксама не ловяць мух. Не будзем гаварыць пра менш значныя памылкі, накшталт таго, што Ян Гевелій (1611—1687) у 1690 г. (пасля смерці!) «не без іроніі» прысвоіў назву «Муха» гэтаму сузор'ю (ды не гэтаму!), або што прэцэсія верне сузор'і на старыя месцы праз 24.000 гадоў (энцыклапедыя дае лічбу 26.000, а на самой справе праз 25.765 гадоў).

Зыходзячы з такіх недарэчных пасылак, Р. Равякам «выяўляюцца як мінімум чатыры супярэчнасці» з намерам перасцерагчы чытача ад памылак, а рэдакцыя не заўважае абсурду: сляпы бярэцца стаць павадыром.

У прыватнасці, за «супярэчнасць» ён выдае і з апломбам мусіруе старую пагалоску, запушчаную недобразычлівцам беларушчыны, пра «пісараву памылку» з падменай (зноў падмена) неабходнага эгрэгіі — выдатнаму на месцы быццам недарэчнага георгі (у аўтара — георгіі). Мы лічым, што каралеўскі пісар у прывілеі — грамаце, выдадзенай каралём Жыгімонтам I Скарыне 25 лістапада 1532 г., напісаў так, як і ў арыгінале, і не мог зрабіць памылкі, недаравальнай нават вучню-пачаткоўцу (малюнак 4). Да і Скарына паруліўся б выправіць памылку! Яму, з яго вопытам і веданнем вартасці слова, тым больш — у дакуменце, які тычыўся між іншым і спадчынных адносін (у тым ліку і ў Полацку, дзе яго наўрад ці знаді пад іменем Францішак), патрэбна была ідэнтыфікацыя не толькі на Захадзе, але і на Усходзе, на радзіме, бо тут яго знаді як Георгія.




Тэма падмены бярэ свой пачатак у артыкуле-рэцэнзіі польскага шавініста Г. Лаўмяньскага на кнігу Ад. Станкевіча «Доктар Францішак Скарына, першы друкар беларускі. 1525—1925» (Атэнеум Віленскі. Вільня, 1925, Рок III, Сшыт. 9, Раздзел III). Г. Лаўмяньскі «даказаў», што Скарына не мае і не мог мець ніякага культуралагічнага значэння для беларусаў, бо адзінай яго турботай быў чыстагон. Узнікае недаўменне, чаму ж ён так настойліва аднімае ад Скарыны імя Георгі, каб замяніць беззадай прычыны словам «выдатны». У чым тады «выдатнасць» Скарыны? Падрабязней пра гэту фальшыўку гл. у нашым артыкуле «Праблемы скарыназнаўства і імя Скарыны» (Навіны Беларускай акадэміі, 1992, № 41 і 42, с. 5 і 6). Але цэлая раць скарыназнаўцаў прызнала аргументацыю недобразычліўца-шавініста і завяла сябе ў крызісны стан. Калізію выявіў паэт: «Адзін жабрак павесіў лапці сушыць на плот — другі забраў». І не дзіва! Бо тыя, хто мог бы



не дапусціць дэградацыі, даўно адышлі ў лепшы свет. Што мы маем на ўвазе?

Пасля доўгага перыяду грэбавання ў савецкі час гісторыяй народа і каштоўнасцямі яго культуры, пасля кан'юнктурнага выкарыстання іх у часы Вялікай Айчыннай вайны і пасляваеннага часу з ідэалагічна-прапагандысцкімі мэтамі ўсё ж наступіў момант, калі грамадскія інтарэсы выклікалі да жыцця навукоўцаў, шчыра зацікаўленых у тым, каб даследаваць спадчыну нацыянальнага генія. Гэта былі М. А. Алексютовіч, А. Ф. Коршунаў, М. I. Прашковіч. Яны зрабілі сапраўдныя зрухі ў асэнсаванні літаратурнай спадчыны Скарыны. Як кажуць, яны былі першымі (і сапраўднымі) скарынаведамі. Але эпоха наклала на іх сваю жорсткую руку. Алексютовіч заўчасна памёр, віном заліваючы горыч неразумення з боку афіцыёзу. Прашковічу ідэалагічны істэблішмент пад кіраўніцтвам і па ініцыятыве А. Т. Кузьміна наклеіў ярлык «нацыяналіста» і пазбавіў работы; ветэран і інвалід вайны Коршунаў таксама заўчасна памёр. Гэтым вучоным, тым не менш, удалося пераадолець вальфсонаўшчыну і абэцэдаршчыну — гарбуноўшчыну. Іх сцяг паднялі вучоныя рангу Ул. М. Конана, аўтара шматлікіх сапраўды фундаментальна-энцыклапедычных прац, І. В. Тумаша — прадстаўніка беларускай дыяспары ў ЗША, які нясе сваё пакаяннае служэнне на дзядзіне скарыназнаўства. Але не да ўсяго дайшлі і іх рукі. У сучасным скарыназнаўстве запанавала лаўмяньшчына новага гарту. Ці не з гэтай нагоды той жа паэт усклікнуў:

«Ты б паглядзеў, якія страты
дзяржаве чыняць «каршуны»:
У дактары і кандыдаты
Пралазяць з крадзеным яны!»

Амаль дэтэктыўная гісторыя з залётам «Мухі» «не туды» у дасведчанага чытача выклікае ў памяці радкі з вершу М. Рубцова:

«І ўсмешка пазнання блукала
У шчаслівых вачах блазнюка».

У мяне ж — шкадаванне. І вось чаму: нельга разважаць пра нешта без дастатковых падстаў, бессістэмна.

Нам удалося, не раўнуючы з астранамічнай дакладнасцю, расшыфраваць усе прыпомненыя «таямніцы» гравюрнага партрэта. Напрыклад, у выніку разгадкі манаграмы-вензеля ТМЗ і сімвалу сузор'я «Пчалы» з'явіліся магчымасць і падставы сцвярджаць пра вызнанне вучоным прынцыпаў геліяцэнтрызму, г. зн. вучэння, якое насуперак традыцыйнаму геацэнтрызму сцвярджае, што ў цэнтры сусвету знаходзіцца не Зямля, а Сонца. Скарына ўласнаручна зафіксаваў у сімвалагічнай форме палажэнні гэтай канцэпцыі на 26 гадоў раней, чым была зроблена першая публікацыя выдатным польскім астраномам М. Капернікам у 1543 г.

Асноўная ідэя геліяцэнтрызму аб руху планет і Зямлі, у тым ліку вакол Сонца, сустракаецца ў старажытных астраномаў (Гікета (IV ст. да н. э.), Філалая (450 да н. э.), Платона, Геракліта Пантыйскага, Арыстарха Самоскага). Але яна заставалася неабгрунтаванай тэорыяй.

**Ул. АГІЕВІЧ,**
**старшы навуковы**
**супрацоўнік Інстытута**
**філасофіі**
**і права АНБ.**

(Працяг будзе).

# Наш літаратурны салон

Знаёмцеся: Усевалад Яўгенавіч Бардон. Акрамя свайго асноўнага захаплення — геалогіі, кандыдат геолага-мінералагічных навук Інстытута геахіміі і геафізікі АН РБ, вядучы навуковы супрацоўнік мае яшчэ адно: піша казкі. Як у яго гэта атрымліваецца — вырашайце самі.



## КАМЕННЫЙ ГОРОД

Вы, конечно, знаете, что далеко-далеко, за горами, за морями есть Волшебный сказочный город? Не знаете? Тогда слушайте нашу сказку!

В этом городе совсем нет людей, а живут в нем... камни. Но не простые, а разноцветные и, конечно же,— город ведь сказочный, — волшебные. Это благородный Лал, или, как его ласково называют друзья, Шпинель, нежная Бирюза, бархатный Малахит, гордый принц Аметист и многие-многие другие.

В Волшебном городе есть Хрустальная площадь с Хрустальным колодцем, а улицы все носят названия цветов радуги: улица Красная, Оранжевая, Желтая, Голубая, Синяя, Фиолетовая, Зеленая. В домиках на этих улицах и живут наши волшебные камни. Они умеют говорить, ходят в гости и часто рассказывают друг другу разные удивительные истории.

Волшебные камни — их часто называют Самоцветами — смеются, когда им смешно, и плачут, когда грустно. Питаются они солнечными зайчиками, которые умеют пускать многие из них — камни-кристаллы.

Город появился на свете так давно, что все забыли его сказочную историю. И только Ветер помнил ее. И как-то ранним утром высоко в горах я услышал его рассказ.

В очень-очень древние времена на самом краю Земли жил-был Король. Королевство его было совсем маленьким, а замок — старый-престарый. Единственное его богатство — это красавица-дочь! Но она была такая капризная, непослушная, порой злая, упрямая и гордая, что очень огорчала старого Короля.

Кто бы из юношей ни приезжал в Маленькое Королевство, чтобы победить в различных состязаниях и стать женихом Королевны, уезжал не солоно хлебавши. Красавица не хотела становиться невестой ни победителя скачек на диких волках, ни лучшего стрелка из лука, ни великолепного танцора, ни музыканта...

Но однажды в Маленькое Королевство случайно попал молодой и красивый юноша, который с первого взгляда полюбил капризную королевну. Юноша тоже понравился красавице, но гордость помешала ей сказать просто: «Я люблю тебя и буду твоей невестой!» Решила она испытать юношу.

— Ты видишь, в каком маленьком и бедном королевстве мы живем,— сказала она.— Я выйду за тебя замуж, если выполнишь три мои желания.

Юноша с радостью согласился. Но желания были такие трудные, что он сразу же загрустил.

— Первое мое желание,— говорит девушка,— чтобы этот маленький родничок, где такая холодная и вкусная вода, за одну ночь превратился в Хрустальный колодец. Стены его чтобы были из драгоценных камней. Чтобы колодец сверкал и искрился на солнце, очаровывая своей красотой наших гостей и путников.

Грустным пошел домой Юноша. Когда мать его спросила, почему он такой невеселый, он все ей рассказал. А мать Юноши была доброй волшебницей.

— Не печалься,— сказала она сыну,— ложись спать, а утром отправляйся к роднику.

Юноша так и сделал. На месте маленького родника всеми цветами радуги переливался на солнце Хрустальный колодец. Драгоценные камни — горный хрусталь и аметисты, алмазы и изумруды — так сверкали, что в яркий солнечный день на них больно было смотреть. А вода в колодце оставалась такой же вкусной и холодной, как и в маленьком роднике.

Обрадовалась королевна, но не призналась, что полюбила юношу, а дала ему еще одно задание.

Пустырь, который окружал старый-престарый замок, пожелала она, пусть превратится в сказочный город. Дома в нем будут из аметистов и сапфиров, окна — из горного хрусталя и листочков слюды, деревья — из изумрудов, а ромашки — из янтаря. А посреди города переливается пусть всеми цветами радуги Хрустальный колодец.

Еще больше загрустил Юноша, чем в первый день. Приходит домой, а мать его и спрашивает:

— Почему ты сегодня опять такой невеселый?

Рассказал юноша, что за одну ночь ему нужно построить сказочный город из драгоценных камней: дома — из фиолетовых аметистов и голубых и синих сапфиров, окна — из прозрачного хрусталя и листочков слюды, деревья — из яркозеленых изумрудов, а ромашки — из солнечно-желтого янтаря.

— Не печалься,— сказала мать-волшебница,— ложись спать. Утро вечера мудренее. А с восходом солнца пойдешь к Хрустальному колодцу, и там будет уже стоять сказочно красивый город.

Так и вышло.

Пришел Юноша к Волшебному городу, а он весь сияет и переливается в лучах восходящего солнца. Дома в нем сверкают фиолетовым и синим, деревья — изумрудно-зеленые, а ромашки — янтарно-желтые. И только замок остался старым-престарым. И все из того же камня — простого желтоватого и необыкновенно теплого, чуть-чуть шершавого известняка. А у Хрустального колодца посреди Волшебного каменного города сидит красавица-королевна.

Еще больше полюбила она Юношу, но гордость не позволила ей и сейчас сказать об этом. И придумала она третье желание. Пусть королевский замок — старый-престарый, из обыкновенного камня — тоже превратится в сказочный. Стены его пусть будут из гранатов и рубинов, крыша — из малахита, а крыльцо и колонны — из благородной шпинели, из камня, который в горах всегда называют Благородный Лал.

Пришел Юноша домой, повесив голову и еще больше опечаленный. Мать спрашивает, что случилось.

— Последнее желание королевны,— говорит юноша,— чтобы ее старый-престарый замок превратился за одну ночь в сказочный дворец из драгоценных камней.

Рассердилась добрая волшебница. Взмахнула она волшебной палочкой — исчез сказочный город с янтарными ромашками и изумрудными деревьями. Исчез Хрустальный колодец, а остался только старый-престарый замок и королевна у маленького родничка в бедном королевстве на самом краю Земли.

Но Юноша так сильно любил красавицу-дочь старого Короля, что наутро опять пошел к ней в гости.

Увидела его королевна — обрадовалась, бросилась обнимать и целовать. Она рассказала, как сильно полюбила Юношу, как гордость и капризы заставляли ее загадывать желания. Обрадовался Юноша. Поцеловал свою королевну, и они стали жить-поживать в старом-престаром замке и радоваться жизни — солнышку и чистой родниковой воде, живым, а не изумрудным цветам и прекрасным деревьям, которые выросли на месте бывшего пустыря вокруг королевского замка.

И я там был, родниковую воду пил, слушал шелест листвы и слушал, о чем поет ветер.

А ветер пел песню о том, что сказочный Волшебный город из драгоценных камней не исчез совсем, а мать Юноши — добрая волшебница — перенесла его за моря и горы, туда, где совсем нет людей. А чтобы в городе этом не было скучно, она оживила камни, научила их говорить и питаться солнечными зайчиками.

Так и появился на свете сказочный Каменный город, где совсем нет людей, а живут только камни, но не простые, а разноцветные и, конечно же, волшебные!



Две пламенные страсти — геология и поэзия — живут в сердце главного научного сотрудника Института геологии, геохимии и геофизики, доктора геолого-минералогических наук Лидии Федоровны **АЖГИРЕВИЧ**. И трудно сказать, что же она любит больше.

Научно-исследовательской деятельности в области литогидрогеохимии Лидия Федоровна посвятила уже около 28-и лет. За это время вышли в свет ее книги, порядка 200 публикаций, 15 монографий.

А вот стаж стихотворца точно установить невозможно. Хотя, пожалуй, первые серьезные пробы пера появились в студенческие годы.

Сегодня мы предлагаем вниманию читателей подборку стихов **Л. Ф. АЖГИРЕВИЧ**.

* * *

Сгорает жизнь в инсульте ссор,
От бесконечных оскорблений я
устала.
Ведь что ни день — то разговор:
Не так пошла, не там я встала.

Не так взглянула на кого,
Или же вовсе отвернулась.
И нет терпенья моего —
Обидой сердце захлебнулось...

Я за слабость себя упрекаю,
За ранимость корю
И судьбу свою предрекаю —
На костре унижений сгорю.

Кровь унижений бьет в глаза,
в виски
И давит слишком,
А сердце схвачено в тиски
И смерть явится передышкой...

* * *

*Хотите —*
*Помолюсь за Вас*
*Какому-нибудь Богу.*
*Хотите —*
*Соберусь за Вас*
*Я в дальнюю дорогу.*
*Хотите —*
*Выплачу дождям*
*Все Ваши горести и слезы,*
*Хотите —*
*Все тепло отдам*
*В крещенские морозы!*

* * *

Три минуты надежды,
Три минуты весны,
Подарите, как прежде,
Разноцветные сны.

Красоте небывалой
Поклоняюся я,
Я в зиме запоздалой
Слышу говор ручья.

Отбушуют метели
И промчатся шторма,
И в весенней купели
Я воскресну сама.

Выйду в поле с рассветом
И вокруг оглянусь,
И растает при этом
Моя зимняя грусть.

Я увижу, как прежде,
Разноцветные сны —
Три минуты надежды,
Три минуты весны.

**БИСЕР**

**Бреду в сплошном тумане,**
**Дорога нелегка.**
**В моем пустом кармане**
**Бренчат два пятака.**

* * *

**Мне не нужна твоя забота,**
**Не нужно «здравствуй» и**
**«прощай» —**
**Твои слова, как позолота,**
**Переслащенный слишком чай!**

* * *

**В тревоге страшной и тоске.**
**Жизнь — воротник, побитый**
**молью.**
**Я, словно рыба на песке,**
**Лежу, раздавленная болью...**

* * *

**Умру непризнанным поэтом**
**И оттого безумно жаль**
**Берез, пронзенных вешним**
**светом,**
**И леса тихую печаль.**


Рэдактар А. А. ШЫМАНОВІЧ.



«Навіны Беларускай акадэміі» — штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі.

Выходзіць раз на тыдзень.

Пры передруку просьба спасылацца на «НБА».

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220072, г. Мінск, вуліца Ф. Скарыны, 1, пакої 311, 313.

ТЭЛЕФОНЫ: рэдактара — 39-46-12, аддзелы — 39-54-51.

Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа.

Падпісана да друку 28.04.93 г.

Тыраж 1600 экз.

Індэкс 64123.

*Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не раздзяляючы пункту гледжання аўтара.*

Зак. 87.